ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 44 (2394) 3 лістапада 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 40 рублёў.

*Уладзімір* ГАНЧАРЫК: *ПРАФСАЮЗ МНЕ НАГАДВАЕ БАЛЬНІЦУ*

## УСЁ ТОЙ ЖА ДОМ, УСЁ ТОЕ Ж КРЭСЛА



**Пасля бурных перабудовачных падзей на пэўны тэрмін -- год, а можа і два -- беларускія прафсаюзы практычна зніклі з грамадскага і палітычнага небасхілу. Некалькі разоў на шумных мітынгах "праявіліся" іх калегі-"незалежнікі". З адкатам жа мітынговай хвалі і яны некуды падзеліся. Здавалася, што працоўныя назаўсёды засталіся сам-насам са сваімі вытворчымі і сацыяльнымі праблемамі. Але разам са слабай палітычнай стабілізацыяй, ростам парламенцкай кваліфікаванасці зноў стаў чутны голас прафсаюзаў -- менавіта тых, яшчэ нядаўна афіцыйных, традыцыйных, да якіх мы ўсе прывыклі. Такім чынам, час разброду і хістанняў мінуў! Ці ўпэўнена адчувае сябе ў сучасных умовах яшчэ адна кагорта народных абаронцаў! Ды і ці ў стане сёння прафсаюзы каго-небудзь абараніць! Пра ўсё гэта гутарка са старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімірам ГАНЧАРЫКАМ.**

*-- Уладзімір Іванавіч, калі меркаваць па знешніх прыкметах, складваецца ўражанне, што ў прафсаюзах нічога не змянілася: ваш стромкі будынак у цэнтры Мінска пры вас, традыцыйны шэраг аўтамабіляў каля яго пад'езда таксама на месцы, ды і сам спадар Ганчарык усё ў тым жа самым старшынёўскім крэсле, як і некалькі гадоў раней. Дарэчы, у наш век інтэнсіўных кадравых перамен апошняе асабліва здзіўляе. Ці змянілася ваша ўнутранае адчуванне і сябе, і ўсёй гэтай вялікай арганізацыі, што завецца прафсаюзамі?*

-- Безумоўна, змянілася. Самі прафсаюзы змяніліся. Яны і не могуць не мяняцца: грамадства стала зусім іншым. Сутнасць жа прафсаюзаў у значнай ступені вызначае эканоміка. Але сказаць, што мы разгубіліся, страцілі свае структуры, тое, што нам прадракалі, -- гэта няпраўда. Што тычыцца будынка, то, натуральна, ён на месцы, што ж да аўтамабіляў, на жаль, яны не нашы: каб мець грошы на ўтрыманне такога вялікага будынка, частку памяшканняў даводзіцца здаваць у арэнду розным камерцыйным фірмам.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

РЭДКАЕ ВЫДАННЕ

## КНІГА ЗАГАДКАВАГА ЛЁСУ

У адным з сваіх апошніх юбілейных інтэрв'ю вядомы наш даследчык Сцяпан Александровіч на пытанне карэспандэнта газеты "Голас Радзімы": "Што б вы марылі адкрыць, знайсці, якія белыя плямы на карце гісторыі роднай літаратуры турбуюць, непакояць вас найбольш?" -- адказаў, што яму дужа хацелася б сярод іншых росшукаў прасачыць гісторыю выдання нелегальнага зборніка паэтычных твораў "Пес'ні", які быў выдадзены на самым пачатку нашага стагоддзя -- у 1904 годзе. І жаданне гэтае Сцяпана Александровіча зразумелае. Зборнік "Пес'ні" -- менавіта такое яго тагачаснае графічнае напісанне -- першая ці адна з самых першых беларускіх кніг XX стагоддзя. Асноўны змест яго складаюць творы "Дудкі Беларускай" і "Смыка Беларускага" Францішка Багушэвіча. Праўда, не ўсе, а выбраныя. І размешчаны яны не зусім так, як у Багушэвічавых зборніках, а адвольна. Адвольнасць гэтая мэтаскіраваная. Пачынаецца зборнік з верша "Дурны мужык, як варона". Потым ідуць -- "Як праўды шукаць", "У судзе", "Мая хата", "Бог не роўна дзеле", "Кепска будзе", "У астрозе", "Быў у чысцы", гэта з "Дудкі Беларускай". А вось творы з "Смыка Беларускага" -- "Калыханка" (у зборніку "Калысанка"), "Панская ласка", "Ахвяра", "Не чурайся", "Свая зямля". Апрача Багушэвічавых твораў, у канцы зборніка змешчаны вершы і іншых аўтараў. Прыкладам, Цёткі "Мужыцкая доля", а таксама "Ой, у полі вецер вее", "Окліч" Каруся Каганца. Аўтарства гэтае, як і Багушэвіча, у зборніку не пазначана. Гэта пазней нашы даследчыкі вызначылі аўтараў. Вызначэнне прасвятляе і гісторыю выдання. Прасвятляе, але не высвятляе.

Гісторыя выданняў "Пес'няў", трэба сказаць, і цяпер вельмі і вельмі загадкавая. Зборнік "Пес'ні" надрукаваны на танюсенькай бялюсенька-белай папяроснай паперы. Яна і цяпер такая ж бялюсенькая-бялюсенькая, аж свіціцца. На авантытульнай старонцы пазначана: "Дозволено цензурою. СПБ. 17 декабря 1903 г." І трошкі ніжэй пад гэтай паметай яшчэ адна: яна сведчыць, што зборнік "Пес'ні" друкаваўся ў сінадальнай друкарні. Той, хто ведае, з якой цяжкасцю прабівалася беларуская кніжка ў свет, згаданую памету адразу палічыць за дзёрзкасць. А яно так і ёсць! Выдаўцы такой паметай зрабілі выклік: сінадальная друкарня -- гэта вам не абы-якая друкарня, а сіноду належная. А сінод -- гэта найвышэйшая царкоўная ўстанова праваслаўнай канфесіі. Так што чытайце, панове, купляйце беларускую кніжку смела. Сам сінод ведае пра яе выданне! Не сумняваюся, што менавіта такімі меркаваннямі кіраваліся выдаўцы беларускіх "Пес'няў", калі пазначалі, што надрукаваны яны ў сінадальнай друкарні.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Новы універмаг у Салігорску.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ДОБРАЕ СЭРЦА ДОКТАРА ВАЙНРЫХА

Сёння можна з ўпэўненасцю сказаць, што дзевяты вал замежнай гуманітарнай дапамогі Беларусі паспяхова схлынуў, пакінуўшы многім чарнобыльцам, хворым і састарэлым толькі ўспамін аб добрых леках і смачных пахах замежных прысмакаў. І тыя, хто яшчэ дапамагае нам дагэтуль, -- самыя стойкія і непахісныя. Менавіта да іх можна аднесці мужа і жонку Дзітрыхаў, якія яшчэ ў 1990 годзе прывезлі ў Мінск першы груз гуманітарнай дапамогі і працягваюць рабіць гэта і далей. На спецыяльна набытым аўтобусе ў рамках ініцыятывы "Дапамога дзецям Чарнобыля" Раймер Дзітрых возіць нашых хворых дзяцей на аздараўленне ў Германію. Днямі ён зноў прыехаў у Мінск, і пасажырамі яго двухпавярховага аўтобуса былі немцы, у сем'ях якіх у свой час адпачывалі нашы дзеці. Многа добрых уражанняў для абодвух бакоў пакінулі гэтыя адведкі, але ж рызыкну сказаць, што адна сустрэча была асаблівай. Маленькага Жэню Шавеля з Узды з доктарам Міхаэлем Вайнрыхам звязвае даўняе сяброўства. Справа ў тым, што пасля цяжкай хваробы Жэня стаў інвалідам. Пра яго бяду даведаліся члены арганізацыі "Дапамога людзям у бядзе", якая знаходзіцца ў гарадку Эльмсхорн, што пад Гамбургам. Партнёрам гэтай ініцыятывы ў Мінску з'яўляецца праваслаўнае сястрынства ў імя святых Марфы і Марыі. Менавіта з іх дапамогай Жэню накіравалі ў Германію, дзе доктар Вайнрых зрабіў хлопцу выдатны пратэз, з якім той мог не толькі хадзіць, але і бегаць, гуляць у футбол. Зараз Міхаэль Вайнрых прыехаў у Мінск не з пустымі рукамі. Ён прывёз дэталі, каб адрамантаваць Жэнін пратэз, зрабіць яго крыху большым -- хлопчык жа хутка расце! Доктару Вайнрыху было цікава папрацаваць на Мінскім пратэзным заводзе, тым больш, што ў красавіку будучага года ён плануе прыехаць сюды яшчэ раз, але ўжо з грузам гуманітарнай дапамогі, збіраецца на працягу месяца працаваць на заводзе, вырабляючы пратэзы для нашых дзяцей.

Хочацца сказаць і аб апошняй акцыі таварыства "Дапамога людзям у бядзе": толькі што яго актывісты накіравалі ў пацярпеўшы ад Чарнобыля гарадскі пасёлак Карма 80 тон гуманітарных грузаў.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА*

## КРЫЗІС ДАВЕРУ

**Як выявіла камісія па вывучэнню работы мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання са зваротамі грамадзян, якая працуе ў Ляхавіцкім і Ганцавіцкім раёнах, тут практычна поўнасцю падарваны давер людзей да мясцовых органаў кіравання. Даведзеныя да адчаю людзі вымушаны шукаць абарону ў абласным цэнтры або Мінску, абіваючы парогі розных інстанцый. Гэта пры тым, што, як высветлілася ў перыяд работы камісіі, да 40 працэнтаў (а па асобных пытаннях ад 50 да 80 працэнтаў) заяў, зваротаў грамадзян можна было вырашыць на месцы.**

**Другі вывад: улада на месцах поўнасцю прагніла. Ва ўсіх выпадках "агульны каравай" дзяліўся на прадстаўнікоў маючых уладу, усім астатнім заставаліся, як кажуць, крыхі. Паразітавалі маючыя ўладу на будаўніцтве жылля, гандлі таварамі павышанага попыту, прысваенні таго, што трапляла пад руку. У выніку -- кругавая парука на месцах з ніцямі, якія цягнуцца ў вобласць, застой у абнаўленні кадраў. Людзі гэта бачылі і бачаць, але мірыцца з такім становішчам не хочуць. Таму яны жадаюць змены мясцовай улады, аб чым сумленна і шчыра гавораць членам камісіі.**

*ЗАЯВА ГРАМАДЫ*

## НІЯКІХ ПРЫКМЕТ ПАЛЯПШЭННЯ

**Выканаўчы Камітэт Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады выступіў з заявай наконт першых ста дзён Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі.**

**Гэты час поўнасцю пацвердзіў, гаворыцца ў заяве, што Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, на жаль, не памылілася ў сваіх песімістычных ацэнках і прагнозах. Абяцанні кандыдата на пасаду Прэзідэнта ўтаймаваць інфляцыю, спыніць збядненне насельніцтва і адмовіцца ад выпуску ў абарачэнне пустых грошай абярнуліся на справе шматмільярднай эмісіяй не забяспечаных тварнай масай рублёў, як быццам бы для падтрымкі сельскай гаспадаркі, але, як і раней, грошы да сельскага працаўніка не дайшлі, а трапілі на валютную біржу. У выніку курс беларускага рубля з 2 800 рублёў за 1 долар ЗША на 22 ліпеня ўпаў да 7 030 рублёў за 1 долар на 24 кастрычніка.**

**Мафія нажыла вялікія капіталы, а сярэдні заробак нашых грамадзян за тры апошнія месяцы ўпаў з 30 да 20 долараў.**

**Адначасова рэзка ўзраслі цэны на прадукты харчавання, на праезд, паліва, камунальныя паслугі і гэтак далей. Ніякіх прыкмет спынення росту цэн не назіраецца.**

**Грамада не бачыць ніякіх прыкмет і абяцанай Прэзідэнтам барацьбы з карупцыяй. Прэзідэнт абвінавачваецца ва ўсіх смяротных грахах. Адзінае, у чым Прэзідэнт меў "поспех", -- гэта ў спрыянні актывізацыі антыбеларускіх сіл. Выступленні А. Лукашэнкі паслужылі сігналам для наступу вялікадзяржаўных шавіністаў і праціўнікаў незалежнасці Беларусі на беларускую школу і культуру, на дзяржаўны статус беларускай мовы.**

**Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, якая распрацавала праграму рэформ, згодна з якой сярэдні заробак на працягу года дасягнуў бы 100-150 долараў ЗША, а жыццёвы ўзровень зраўняўся б з дзяржавамі Балтыі і Усходняй Еўропы, ніколі не змірыцца з такім становішчам у нашай дзяржаве.**

**Яна гатова ўскласці на свае плечы адказную ношу, каб у выніку перамогі на выбарах, разам з іншымі дэмакратычнымі сіламі забяспечыць рэалізацыю сваёй праграмы па паляпшэнню дабрабыту людзей шляхам умацавання дзяржаўнасці, дэмакратыі і рыначнай эканомікі.**

*ПАДЛІЧЫЛІ*

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЎЛАДА

**Як паведаміў старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Абрамовіч, паводле папярэдніх разлікаў, на арганізацыю кампаніі па выбарах дэпутатаў у Саветы ўсіх узроўняў патрабуецца 69 мільярдаў рублёў. Аднак, па некаторых даных, Міністэрства фінансаў урэзала гэтую суму да 52 мільярдаў. Выбары дэпутацкага корпуса абыдуцца ў многа разоў даражэй, чым выбары кіраўніка дзяржавы, на якія патрачана каля 6 мільярдаў рублёў.**

*ГАЛАСЫ МІНУЛАГА*

## НЯМА ДРУГОЙ ТАКОЙ ПАДЗЕІ

**Рэспубліканскі савет Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць звярнуўся да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Мечыслава Грыба з просьбай разгледзець на бягучай сесіі парламента пытанне аб уключэнні 7 лістапада ў пералік дзяржаўных святаў Беларусі.**

**На думку кіраўнікоў ДСПС, "у агляднай гісторыі няма падзеі, якая б так плённа адбілася на лёсе народа Беларусі", як дзень Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, "у выніку якой беларускі народ набыў рэальную нацыянальную дзяржаўнасць".**

*ПАМЯЦІ ГЕРОЯЎ*

## СЛУЦКАЕ ПАЎСТАННЕ

**Утвораны Арганізацыйны Камітэт па святкаванню 74-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Аргкамітэт заснавалі Беларускі народны фронт "Адраджэнне", Мартыралог Беларусі, творчая суполка "Пагоня", Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Беларускае краязнаўчае Таварыства, Згуртаванне беларускае шляхты, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць, культурны асяродак "Беларусь" г. Алматы, Беларускі фонд імя Л.Сапегі, Асацыяцыя вольных сродкаў масавай інфармацыі.**

**Старшынёй Аргкамітэта абраны прафесар Мікола Савіцкі. На сваім першым пасяджэнні Аргкамітэт пастанавіў прадоўжыць вывучэнне гісторыі Слуцкага Збройнага Чыну, лёсу ягоных кіраўнікоў і жаўнераў; святочныя мерапрыемствы і ўшанаванне памяці герояў паўстання правесці ва ўсіх найбольш важных паселішчах краіны, звязаных са збройным змаганнем за Беларускую Народную Рэспубліку. Аргкамітэт заклікаў грамадства Беларусі шырока адзначыць чарговыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну.**

*50 ГОД ПАСЛЯ ВАЙНЫ*

## ТАНКІ НА ДНЕ

**Бранятанкавая служба Узброеных Сіл Беларусі мае звесткі аб тым, што на дне рэк і азёр Беларусі яшчэ з часоў Вялікай Айчыннай вайны ляжаць нашы і нямецкія танкі, якія часта гінулі разам з экіпажамі.**

**Так, напрыклад, дакладна ўстаноўлены факт знаходжання ў Чорным возеры пад Крычавам баявой "трыццацьчацвёркі". Такі ж танк знаходзіцца і ў возеры пад Бялынічамі. А ў рацэ Проня ў Чавускім раёне ў вадзе пад слоем глею ляжыць танк "КВ". Спецыялісты бранятанкавай службы плануюць дастаць яго і некаторыя іншыя машыны да 50-годдзя Перамогі.**

*СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## АГОНЬ БЕСТУРБОТНАСЦІ

**За 9 месяцаў гэтага года на тэрыторыі Беларусі адбылося 13 213 пажараў, у якіх загінулі 358 чалавек, у тым ліку 28 дзяцей. Агнём знішчаны 3 340 пабудоў, I 202 галавы буйной рагатай жывёлы, 312 адзінак тэхнікі і 8 528 тон грубых кармоў. Агульны ўрон ад пажараў ацэньваецца ў 12 мільярдаў 592 мільёны рублёў. Амаль палова ўзгаранняў адбылася з-за неасцярожнага абыходжання з агнём ці дзіцячага свавольства. І яшчэ адна асаблівасць: калі ў сельскай мясцовасці пажараў было прыкладна столькі ж, колькі і ў гарадах, то людзей на вёсцы ад агню загінула амаль у два разы больш.**

*ПАДЛЕТКІ-ЗЛАЧЫНЦЫ*

## КОЖНЫ ЧАЦВЁРТЫ

**Кожнае чацвёртае злачынства супраць уласнасці ў рэспубліцы здзяйсняе непаўналетні.**

**З іх, як паказала даследаванне, праведзенае аддзелам крыміналістыкі НДІ крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертыз Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, крадзяжы ўласнай маёмасці складаюць 28,3 працэнта, грабяжы -- 26,8 працэнта, разбоі -- 20,2 працэнта, вымаганні -- 31,3 працэнта, крадзяжы зброі і боепрыпасаў -- 19 працэнтаў.**

**Сярод злачынстваў супраць асобы 21,9 працэнта прыпадае на згвалтаванні, 18 працэнтаў -- на хуліганства.**

*МЫ І СВЕТ*

## У ГОМЕЛІ — СТУДЭНТЫ З КІТАЯ

**У Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны пачалі вучобу студэнты з Кітая. Спачатку яны будуць вывучаць рускую мову, а потым працягнуць адукацыю па спецыяльнасці і атрымаюць ступені бакалаўраў ці магістраў. Выбралі студэнты месцам вучобы Гомельскі універсітэт дзякуючы прафесару педагагічнага універсітэта горада Яньчшоу Вэньбунь, які некалькі гадоў назад абараніў доктарскую дысертацыю пад кіраўніцтвам рэктара Гомельскага універсітэта Леаніда Шамяткова.**

*ГІПОТЭЗЫ*

## ВІНАВАТА СОНЦА?

**Адной з магчымых прычын, што выклікалі ўспышкі чумы і халеры, якая дайшла і да Беларусі, можа быць актыўнасць найбліжэйшай да нас зоркі.**

**У якасці доказу такога сцвярджэння аматар-астраном з Гомеля Андрэй Прантэвіч прыводзіць графік, пабудаваны ім на аснове рэгулярных назіранняў цёмных плямаў на паверхні Сонца, з ярка выражаным пікам, які прыпадае на 7 ліпеня. Яшчэ адзін усплёск актыўнасці свяціла быў зарэгістраваны ім у першыя дні верасня. І цяпер да цэнтра Сонца рухаецца група з дзесяці плямаў. Напомнім, што яшчэ ў пачатку стагоддзя наш выдатны зямляк заснавальнік геліябіялогіі Аляксандр Чыжэўскі ў сваіх работах паказаў, што рэзкае павелічэнне сонечнай актыўнасці можа стаць прычынай узнікнення эпідэмій чумы або халеры ў асобных рэгіёнах Зямлі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ДАРОГІ Беларусі сталі небяспечнымі. Фактычна яны падзелены на сферы ўплыву мафіі. За першую палову 1994 года на аўтамагістралях адбылося 40 разбойных нападаў на вадзіцеляў аўтамашын. Напады робяць добра ўзброеныя групы, у якіх нямала былых спартсменаў.

ПАСОЛ Ізраіля ў Беларусі Эліяху Валк уручыў дыпломы "Праведнік народаў свету" 9 грамадзянам Рэспублікі Беларусь. Год назад такія ж дыпломы атрымалі 13 жыхароў нашай дзяржавы. Дзяржава Ізраіль так адзначае гераізм і спагаду беларусаў, якія ў небяспечных умовах нямецкай акупацыі ратавалі яўрэяў.

МІНІСТЭРСТВА сувязі і інфарматыкі Беларусі паведаміла, што ў паштовае абарачэнне паступілі дзве новыя маркі. Гэта "Старажытны герб Гродна" і "Старажытны герб Віцебска". Улічваючы папярэднія выпускі, серыя "Гербы гарадоў Беларусі" налічвае ўжо чатыры паштовыя маркі.

ПЛАНУЕЦЦА ў бліжэйшыя год-два пабудаваць мост праз раку Свіслач у Мінску. Ён злучыць два берагі ў раёне сталічнага Палаца спорту. Мост будзе пешаходным, па ім хутка можна будзе перайсці ад гасцініцы "Юбілейная" да гасцініцы "Беларусь".

ДЗЕСЯЦЬ год назад выдаў першую прадукцыю Беларускі металургічны завод у Жлобіне. Цяпер яна ідзе на знешні рынак -- у Германію, Аўстрыю, Італію, Венгрыю, Балгарыю, Люксембург, Егіпет, Кітай і іншыя краіны.

На заводзе працуе 7 461 рабочы і 1 784 інжынеры. Беларускі металургічны пабудаваны аўстрыйскай фірмай "Фест-Альпінэ" сумесна з італьянскай "Даніэлі".

*КАМЕРЦЫЯ ЦІ ЗАХОПЛЕНАСЦЬ?*



**Усё жыццё працаваў сталяром на "Гомсельмашы" Мікалай Скамарохаў. А калі стаў пенсіянерам, захапіўся развядзеннем коз. Добра, што ёсць прыватны дом, ды і часу хапае.**

**Цяжка правесці мяжу і адказаць адназначна, што пераважвае: любоў да жывёлін ці камерцыйны бок. Жыццё пенсіянера сёння вельмі нялёгкае. Але, як лічыць Мікалай Фёдаравіч, ён знайшоў сабе справу па душы, а гэта для яго важней за ўсё.**

**НА ЗДЫМКУ: М. СКАМАРОХАЎ са сваімі гадаванцамі.**

# УСЁ ТОЙ ЖА ДОМ, УСЁ ТОЕ Ж КРЭСЛА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

*-- А сам гэты гмах -- маёмасць дзяржаўная ці прафсаюзная?*

-- Маёмасць прафсаюзаў. Прычым хачу зазначыць, што за апошнія пяць год уласнасць прафсаюзаў нават павялічылася: я маю на ўвазе будаўніцтва турысцкіх гасцініц, як гэта ні цяжка. Укладваем грошы ў будаўніцтва санаторыяў.

Што тычыцца вашай заўвагі пра маё месца, то сапраўды я ўжо восем год працую ў прафсаюзах. Гэта, бадай, самы працяглы этап у маёй працоўнай біяграфіі: звычайна на адным месцы я заставаўся 4--5 год.

*-- Калі маё пытанне не падасца вам нясціплым, на якім службовым аўтамабілі ездзіць сёння старшыня прафсаюзаў?*

-- Як і раней, на "Волзе".

*-- Уладзімір Іванавіч, мы з вамі зараз вядзём размову пра перамены ў прафсаюзным жыцці, але пакуль вы нічога не сказалі пра перамены ў грамадскім, сацыяльным статусе прафсаюзаў, а яны ж ёсць. Усе мы добра памятаем, што пры савецкай дзяржаўнай сістэме жыццё краіны трымалася на трох кітах -- партыя-саветы-прафсаюзы. Прафсаюзам, праўда, адводзілася роля самага малодшага брата...*

-- Або яшчэ "прываднога рэменя"...

*-- Тым не менш прафсаюзы з'яўляліся адным з афіцыйных стаўпоў дзяржаўнасці. Дзе, на якім узроўні адведзена месца прафсаюзам цяпер?*

-- Раней па Канстытуцыі СССР ды і па Канстытуцыі БССР -- яны ідэнтычныя -- прафсаюзы былі ўманціраваны ў палітычную сістэму грамадства. Зараз і па Канстытуцыі, і па закону прафсаюзы цалкам незалежная арганізацыя, незалежная ад дзяржаўных устаноў, урада, партый. Прафсаюзы будуюць работу згодна са сваім статутам, што, безумоўна, на практыцы больш цяжка. Але разам з тым у законе запісана, што прафсаюзы знаходзяцца пад аховай дзяржавы, прычым не толькі наша федэрацыя, але ўсе прафсаюзы.

*-- Уладзімір Іванавіч, у адным з сваіх першых выступленняў прэзідэнт Лукашэнка адмоўна адазваўся аб рабоце прафсаюзнага кіраўніцтва. І хаця ваша федэрацыя цяпер нібыта незалежная ўстанова, мне здаецца, такое стаўленне вярхоўнай улады не магло не выклікаць некаторы перапалох.*

-- Калі па шчырасці, то частка прафсаюзнага актыву сапраўды крыху перапужалася, некаторыя разгубіліся. Але я лічу, мы пайшлі па самым разумным шляху: я пазваніў прэзідэнту, мы з ім сустрэліся, пагаварылі, і ўсе непаразуменні былі ліквідаваны.

*-- А ўвогуле, па закону якое права мае прэзідэнт "камандаваць" прафсаюзамі?*

-- Ніякага. Калі ж мы парушым закон, тады ўступае ў свае правы пракурор, суд. Прэзідэнт можа ўмяшацца ў дзейнасць прафсаюзаў толькі, калі парушаецца палажэнне закона аб забастоўках. Тады ён мае права адкласці ці прыпыніць на два месяцы забастоўку. У астатнім мы цалкам аўтаномныя. Кантралюецца толькі фінансавая і гаспадарчая дзейнасць, як і ва ўсіх.

*-- Але, мне падаецца, раней дзяржава брала ўдзел у фінансаванні некаторых прафсаюзных праектаў...*

-- Што, дарэчы, з'яўляецца сусветнай практыкай. І гэта трэба толькі вітаць. Наколькі я ведаю, амерыканскія прафсаюзы ад дзяржавы атрымліваюць велізарныя грошы на знешнепалітычную дзейнасць, прафсаюзы шэрагу краін Еўропы -- на падрыхтоўку кадраў, што вельмі разумна: чым больш будуць падрыхтаванымі і кваліфікаванымі людзі ў прафсаюзах, тым лягчэй ураду вырашаць з імі розныя канфліктныя пытанні, якія непазбежныя. Далей. Прафсаюзы Бельгіі атрымліваюць грошы ад урада, прадпрымальнікаў на выплату дапамог па беспрацоўю. У нас жа раней да чаго ўсё зводзілася? Мы кіравалі дзяржаўным сацыяльным страхаваннем. Зараз гэтага няма.

*-- Хто ж цяпер плаціць па "бальнічных" лістках, калі мы захварэем?*

-- Плаціць прадпрыемства, і кантралюе фонд сацыяльнай абароны. Прафсаюзы працуюць зараз на дагаворных пачатках: скажам, выконваем пэўны аб'ём работы па аздараўленню працоўных, у тым ліку за кошт сродкаў сацыяльнага страхавання і за кошт дзяржаўнага бюджэту. Ахова працы таксама перайшла ад нас. Мы пакінулі за сабой толькі права грамадскага кантролю за сістэмай аплаты працы, аховы працы, органаў сацыяльнага страхавання. Падкрэслю: толькі грамадскі кантроль. Механізм яго рэалізацыі -- праз калектыўныя дагаворы на прадпрыемствах, галіновыя тарыфныя пагадненні і генеральнае пагадненне. Да таго ж мы настойваем на нашым удзеле ў Саветах і праўленнях гэтых органаў.

*-- А ўзносы прафсаюзныя зараз бяруць?*

-- Канешне. Як і раней, адзін працэнт ад заработнай платы. Але гэтыя грошы амаль цалкам застаюцца ў распараджэнні пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі, што не зусім правільна. Нам падаецца, неабходна большая цэнтралізацыя грашовых сродкаў для стварэння разнастайных фондаў салідарнасці, дапамогі...

Між іншым, нягледзячы на ўсе палітычныя, грамадскія, сацыяльныя змены, дыскрэдытацыю ў вачах грамадзян ранейшых дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, прафсаюзы практычна захавалі сваю колькасць.

*-- А ці скараціўся кіраўніцкі штат?*

-- Калі я прыйшоў сюды працаваць, было 120 чалавек. Зараз засталося толькі сорак. У выніку, напрыклад, пытаннямі цэн у нас займаецца 1--2 чалавекі, а аб'ём работы тут вельмі вялікі: трэба сачыць за дынамікай змянення цэн, падлічваць "спажывецкую карзінку"... Шмат работы і ў нашых юрыстаў: цяпер па заканадаўству мноства працоўных спрэчак трэба вырашаць толькі ў судах.

*-- Зараз і прафсаюзы трапілі ў своеасаблівыя рынкавыя ўмовы: свае паслугі па абароне правоў працоўных прапануюць новастворaныя незалежныя прафсаюзы. Цікава, калі яны незалежныя, то, мяркуецца, што ваша федэрацыя -- установа залежная. Тады ад каго?*

-- Мы ўсе павінны дзейнічаць у рамках законаў. Незалежнасць магчымая толькі ў выпрацоўцы сваіх пазіцый, дзеянняў, але зноў-такі толькі ў адпаведнасці з законам. Калі раней было запісана, што прафсаюзы працуюць пад кіраўніцтвам кампартыі, то зараз гэтага, натуральна, няма. Мы самастойна вызначаем сваю палітыку -- і сацыяльную, і эканамічную.

Наогул, прафсаюзы -- не палітычная арганізацыя. Для нас палітыка -- гэта ўдзел у парламенцкіх выбарах.

*-- Ці супрацоўнічае ваша федэрацыя з незалежнымі прафсаюзамі?*

-- Так, па некаторых пытаннях супрацоўнічаем, у прыватнасці, апошнім часам у распрацоўцы працоўнага кодэкса. Але ў большасці выпадкаў яны ідуць на кантакты з намі неахвотна. Мы ж працуем з парламенцкімі камісіямі Вярхоўнага Савета, з урадам, чаго не робяць незалежныя прафсаюзы. Таму і нам з імі, скажам так, не вельмі цікава.

*-- А ў Салігорску на шахтах дзейнічае толькі незалежны прафсаюз шахцёраў? Ці ёсць там вашы структуры?*

-- На "Беларускаліі" існуе наш прафсаюзны камітэт. Быў перыяд, калі ён знаходзіўся ў разгубленасці. Але цяпер дзейнічае даволі актыўна, ды і па колькасці членаў значна перавышае незалежны.

*-- Ці будзе федэрацыя прафсаюзаў браць удзел у новых парламенцкіх выбарах?*

-- Так, на бліжэйшым пленуме мяркуецца разгледзець нашы дзеянні ў сувязі з гэтым. Хацелася б, каб прафсаюзы федэрацыі выступілі на адзінай платформе. З кім ісці на выбары разам? Гэта будзе залежаць ад закона аб выбарах, які пакуль яшчэ не прыняты. Думаю, мы будзем дагаворвацца з некаторымі палітычнымі сіламі, бо самі, па праекту закона, не маем права выпучаць кандыдатаў у парламент.

*-- А да каго больш схіляецца ваша душа ў палітыцы?*

-- Здаецца, у нас могуць быць кантакты з сацыялістычнай партыяй, Партыяй народнай згоды, Партыяй працы і жаночай партыяй "Надзея". Выкарыстоўваць трэба ўсё.

*-- Уладзімір Іванавіч, мяркуючы па інфармацыі ў прэсе, федэрацыя апошнім часам набірае ў сваёй актыўнасці, гэта значыць выходзіць з своеасаблівай грамадска-палітычнай комы...*

-- Гэта вы правільна заўважылі. Быў час, калі нам было вельмі цяжка пра сябе заявіць. Быў, быў перыяд разброду і хістанняў. Развальваўся Савецкі Саюз, развальваліся і тагачасныя прафсаюзы. Пасля ў значнай ступені яны афармляліся нанава. У нас існавалі савецкія прафсаюзы, а нацыянальныя трэба было яшчэ ствараць. Нават існавалі прафсаюзы, якія не ўваходзілі ў склад Белсаўпрофа -- яны падпарадкоўваліся адразу Маскве. Нехта хацеў і далей "аддзяліцца". Складаны быў перыяд.

*-- На сёння гэтыя складанасці засталіся ў мінулым?*

-- Я б так не сказаў. Працэс структурных пераўтварэнняў пакуль яшчэ не закончыўся. Напрыклад, нядаўна ў самастойную структурную адзінку вылучыўся прафсаюз Акадэміі навук. Нехта ж, наадварот, аб'ядноўваецца. А ёсць такія арганізацыі былога саюзнага падпарадкавання, якія і дасюль "боўтаюцца" самі па сабе.

*-- Уладзімір Іванавіч, цяпер, калі прафсаюзы спрабуюць зноў загаварыць на поўны голас, скажыце, вас хто-небудзь чуе? Ці ў стане прафсаюзы ў век дзікага рынку абараніць каго-небудзь?*

-- Трэба зазначыць, што пасля выбрання прэзідэнта, стварэння новага Кабінета міністраў сацыяльнае партнёрства трэба было будаваць нанава. Адбылося мноства сустрэч, перамоў: і з Лукашэнкам, і з Чыгіром, і ўвогуле з Кабінетам міністраў. Мне здаецца, сёння кропкі над "і" расстаўлены. Мы заключылі пагадненне на аздараўленне насельніцтва на будучы год, стварылі рабочую групу па выпрацоўцы генеральнага пагаднення, пераглядаецца склад рэспубліканскага пагаджальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях. Я ўжо казаў, што актыўна супрацоўнічаем з Вярхоўным Саветам. І адна з найбольш значных праблем, якую мы зараз імкнемся вырашыць, -- павышэнне мінімальнай заработнай платы.

*-- Такім чынам, прафсаюз па сваёй сутнасці — канфліктная арганізацыя?*

-- Сутнасць не ў канфліктах, а ў тым, як прайсці праз іх з найменшымі выдаткамі. Мне самому прафсаюз нагадвае бальніцу: пра яго ўзгадваюць, калі робіцца дрэнна. У якасці ж прафілактычных мер мы разглядаем пастаянны працэс перамоў і кампрамісаў з уладамі.

*-- Такім чынам, галоўнае "згода" ці "барацьба"?*

-- Я б не ставіў пытанне так. У нашай канкрэтнай сітуацыі -- шлях сацыяльнага партнёрства. Заключыў сацыяльнае пагадненне, яно не выконваецца, тады -- барацьба.

*-- Дык ці ў стане прафсаюзы каго-небудзь абараніць?*

-- Сустрэчнае пытанне. А хто сёння ў стане каго-небудзь абараніць? Прэзідэнт? Урад? У нашым эканамічным становішчы пакуль можна казаць толькі пра мінімальную ступень абароненасці. Яе прафсаюзы сёння могуць забяспечыць.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

**Віцебскаму батанічнаму саду -- 75 год. Аднак юбілей гэты даволі бязрадасны.**

**Цяжкі час перажывае сёння адзін са старэйшых батанічных садоў рэспублікі. Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя на яго тэрыторыі вырошчвалі унікальныя расліны. У 1901 годзе ён стаў уласнасцю купчыхі Ханны Гурэвіч, яго калекцыя папаўнялася. Пасля ж рэвалюцыі толькі ў аранжарэях было 480 відаў трапічных раслін. Менавіта тады, у 1919-м, саду быў нададзены афіцыйны статус батанічнага.**

**З кожным годам папаўняліся новымі раслінамі аранжарэі. Зона батанічнага сада стала любімым месцам адпачынку віцяблян. Тут раслі піхты, шаўкоўніцы, рэдкія віды бэзу, арэх маньчжурскі, іншыя расліны.**

**Аднак навацыі апошніх гадоў не пайшлі на карысць і саду. Калі ў 1954 годзе ён налічваў каля дзвюх тысяч відаў раслін адкрытага грунту, то цяпер толькі паўтары. Сёння на тэрыторыі батанічнага сада размясціліся два малыя прадпрыемствы -- "Планта" і "Флора", якія займаюцца развядзеннем рэдкіх раслін. Працуюць тут і студэнты педінстытута. І калі ў сэрцах энтузіястаў з малых прадпрыемстваў яшчэ не пагас клопат пра сад, то гарадскія ўлады цалкам забыліся пра яго існаванне. Старыя адпачываюць тут проста на пяньках: лаўкі не прадугледжаны. А каля Свята-Успенскай царквы, якую перадаў горад некалькі гадоў назад веруючым, замест прыгожых раслін -- смецце.**

**Вось у такі плачэўны стан год ад года прыходзіць адзін са старэйшых батанічных садоў рэспублікі. А шкада. Яшчэ адзін зялёны куток у індустрыяльным цэнтры зусім не лішні.**





**НА ЗДЫМКАХ: стогадовая вярба даўно мае патрэбу ў сапраўднай ахове; адзін з энтузіястаў -- вядучы спецыяліст-біёлаг малога прадпрыемства "Планта" Таццяна ГАЛАНІЦКАЯ з пладамі дрэва кофе.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

Антон СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ

# МАЕ ЎСПАМІНЫ

## ГУЛЬНЯ Ў КАРТЫ

Састаяў я тады афіцэрам сувязі. Пэўнага дня, пад вечар, ад'ютант палка даручыў мне пакет з наказам адвезці ў штаб дывізіі не пазней дзесятае гадзіны вечара і вярнуцца з адказам да пятай гадзіны ранку. Штаб дывізіі знаходзіўся за дваццаць пяць кіламетраў. Атрымаўшы пакет, я а гадзіне сёмай вечара выехаў і а дзевятай вечара быў у штабе дывізіі.

Перадаў старшаму ад'ютанту пакет і, папрасіўшы да трэцяй гадзіны наступнага дня прыгатаваць адказ, я направіўся ў дом афіцэра, дзе застаў 12--15 афіцэраў. У той дзень акурат атрымалі пенсію. Усе былі з грашыма і, як водзіцца, заселі гуляць у карты, у дзевятку, ці жалезку, а яшчэ тую гульню называюць: "деньги ваши будут наши".

Я не любіў азартных гульняў у карты і заўсёды гуляў у прэферанс. Аднак тут нельга было адмовіцца. Вольнага часу ў мяне заставалася некалькі гадзін, я прысеў да ігракоў, і пачалася пацеха. Як кажуць, хіба чорт умяшаўся. Якую б карту я ні адкрываў, кожная выйгравала. Афіцэры пачалі хвалявацьца, але ніхто не адыходзіў ад стала. Тым часам к гадзіне дванаццатай ночы ўжо ні ў кога не засталося ні рубля. Некалькі разоў я прасіў афіцэраў пакінуць гульню, бо мне перад дарогаю трэба было пару гадзін адпачыць. Аднак яны ні за што не хацелі мяне адпусціць. Усё мелі надзею адыграцца. Але "бацька не за тое біў сына, што гуляў у карты, а за тое, што адыгрываўся". Так і ім не ўдалося адыграцца. Павывернулі кішэні, хадзілі на кватэры, забіралі з сабою ўсе, якія там яшчэ былі грошы. Некаторыя нават пазычалі ў сваіх ардынарцаў па пятнаццаць--дваццаць рублёў, уваходзілі ў гульню і прайгравалі. Словам, к першай гадзіне ночы ад усіх дзесяці--дванаццаці афіцэраў усе іх грошы апынуліся ў мяне.

Гульня скончылася. Мне проста было няёмка. Адыходзячы, я вылажыў увесь выйгрыш штось каля дваццаці тысяч на стол і прапанаваў разабраць паміж сабою, з улікам, хто і колькі прайграў. Аднак трэба ведаць гонар афіцэраў. Нізавошта не згадзіліся ўзяць назад грошы. Забіраю грошы, развітваюся і іду ў штаб дывізіі, каб атрымаць пакет. Скончыўшы фармальнасць, прылёг на канапе на пару гадзін, але заснуць не мог. Незвычайны выпадак пры гульні ў карты моцна мяне расхваляваў. Меркаваў, што бедакі-афіцэры таксама напэўна не спалі ў тую ноч, асабліва ў каторых у тылу жонкі і дзеці.

Калі я, лежачы на канапе, аб гэтым усім разважаў, мне здавалася, што я злодзей-грабіцель. Зрабаваў у іх сродкі на жыццё. Яны будуць цэлы месяц чакаць грошай ад сваіх бацькоў і не дачакаюцца.

Перад ад'ездам я перадаў ад'ютанту пад паквітаванне ўсе выйграныя грошы -- усяго, як выявілася, дваццаць адну тысячу трыста рублёў (ад'ютант таксама быў у ліку ахвяр) і прасіў раздаць грошы ўсім пацярпеўшым у тую ноч.

У сваім палку я нікому не сказаў, што здарылася ў штабе дывізіі, аднак хутка пачулі, як я бязлітасна абыграў афіцэраў штаба дывізіі.

Камандзір палка палкоўнік Ясніцкі, спаткаўшы мяне праз некалькі дзён пасля майго павароту з дывізіі, пачаў распытваць, як гэта я паздымаў парткі з усіх афіцэраў штаба дывізіі, і вельмі дзівіўся, чаму я аддаў выйграныя грошы. А мне яны былі непатрэбныя. Я меў пры сабе звыш пяці тысячаў уласных грошай. Нікога на ўтрыманні не меў і таму нікому грошай не адсылаў. На фронце выдаткі былі нязначныя.

Пасля апісанага выпадку я назаўсёды пакінуў гуляць у азартныя ігры.

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# ПРАШУ ПАДАЦЬ МАЕ ПОГЛЯДЫ

Паважаны сп. рэдактар!

Зведваю надзвычайную прыемнасьць, калі атрымліваю газэту "Голас Радзімы", якую чытаю з вялікай прагнасьцю. Мне вельмі падабаецца зьмест газэты, у якой абшырна друкуюцца весткі не толькі пра жыцьцё беларусаў на Бацькаўшчыне, але і таксама па-за яе межамі. Пражываю за рубяжом больш 50 гадоў, таму зразумела, што ўсё гэта мяне вельмі цікавіць.

Таксама хацеў бы даведацца, якая магчымасьць заплаціць за перасылку і падпіску на газэту.

Пры нагодзе папрашу, калі гэта будзе магчыма, падаць у "Голасе Радзімы" хоць частку маіх поглядаў і ўражаньняў.

22-га ліпеня бягучага году ў горад Нотынгем (сярэдняя Англія) прыехала з Беларусі дэлегацыя ў складзе пяцёх чалавек на чале з сп. Герасіменкам -- старшынёй Мінскага гарадскога Савета. Ад 1957-га года Нотынгем з'яўляецца пабрацімам горада Менска. У мінулым годзе мэр горада Нотынгема наведаў Менск, як сталіцу незалежнай Беларусі, каб даведацца, якое супрацоўніцтва можа быць у галіне гандлёвай і культурнай паміж гарадамі, а таксама мэдычная помач для пацярпеўшых ад чарнобыльскай радыяцыі. У дыскусіях, на якіх я прысутнічаў, гаварылася, што экспарт з горада Менска, асабліва ў галіне машынабудавання, агранічаны. Віна ў тым, што станкі, на якіх машыны вырабляюцца, ужо ўстарэлі, а таксама кантроль за якасьцю вельмі адсталы.

На Захадзе за апошнія 15 гадоў адбылася мікронная тэхналагічная рэвалюцыя, і гэтая новая тэхналогія ўвайшла ў кожную галіну жыцьця. Чаму ж такая адсталасьць у былых краінах Савецкага Саюза? Справа ў тым, што на працягу апошніх дзесяткаў гадоў не было ніякіх інвестыцыяў.

У 1975-м годзе я меў нагоду разам з жонкай наведаць як турыст пяць гарадоў: Кіеў, Менск, Ленінград, Ульянаўск, Маскву. Гэта былі часы, калі савецкая прапаганда праслаўляла тэхналагічныя дасягненьні ў галіне касмічных палётаў, ракетнай тэхнікі і ўзбраеньняў. Фактычна ж адразу кідалася ў вочы надзвычайная руплівасьць і варожасьць мытных, абыякавасьць абслугі ў магазынах і гасьцініцах. За два тыдні я не пабачыў ніякай усьмешкі і не пачуў ніякага жарту. Асабліва ўразіла няроўнасьць паміж працоўнымі і кіруючымі людзьмі савецкага ладу. На маскоўскім аэрадроме я пабачыў падарожных, сьпячых і ляжачых на падлозе, бо не было дзе сесьці. У той жа час вярхі падарожнічалі і адпачывалі ў гэтых самых абставінах, што і турысты з-за рубяжа. У Ульянаўску нам паказалі музей Леніна і месца, дзе быў пахаваны яго бацька. Што кінулася ў вочы? Гэта тое, што ён быў там адзін. На маё пытаньне, ці бацька Леніна быў праваслаўны і ці быў пахаваны на праваслаўным магільніку і што сталася з астатнімі людзьмі, гід адказаў, што іх адтуль вывезлі (відаць, яны былі недастойнымі ляжаць у гэтай зямлі з бацькам Леніна).

Калі мы выехалі за межы горада Ульянаўска, нам сказалі, каб не рабілі фотаздымкаў, хаця ніякіх ваенных аб'ектаў, апрача фабрыкі самаходаў "Лада", я не бачыў, але бачыў домікі працоўных, збітыя з кускоў дошак і бляхі на ўзор афрыканскіх, паўднёва-амерыканскіх або філіпінскіх гарадоў (адна розніца, што там цяплей).

Нам з гордасьцяй паказалі саўхозныя і калхозныя фермы, якіх не пастыдзіліся б і ў заходніх краінах. Як фактычна выглядалі астатнія калхозы, я пабачыў 15 гадоў пазьней. У 75-м годзе я чытаў у газэце "Правда" пра тое, што магазіны завалены адзежай, а яе ніхто не купляе, бо арцелі не пытаюць, чаго жадаюць спажыўцы, а толькі выконваюць свае пяцігадовыя пляны. Надышла ўборка збожжа, а калхозныя і саўхозныя жняяркі і трактары патрабуюць рамонту, а запасных частак няма. У выніку гэтага ўраджай малы, трэба за золата купляць зерне ў беднай Амерыкі, Канады і Аўстраліі.

З Ленінграда я хацеў пазваніць у горад Баранавічы. На пошце мне сказалі: "Прыйдзі заказаць тэлефон заўтра, бо сёньня перарваная лінія". Мне хацелася сьмяяцца і ў той час плакаць, што мае родныя жывуць у такой "перадавой" стране. Такая была савецкая тэхналёгія, і такая яна далей засталася. Які выхад для Беларусі з гэтай сітуацыі? Тут патрэбны вялікія інвестыцыі. Спадзявацца, што Расея паможа Беларусі выйсьці з гэтага тупіка, немагчыма, бо Расея ў цяперашні час бедная і сама патрабуе інвестыцыяў з Захаду. Нафту і газ Расея будзе прадаваць Беларусі па рынкавых цэнах, і ў такім выпадку якая выгада для Беларусі быць у эканамічным саюзе з Расеяй?

Беларускі народ -- працавіты народ. У параўнаньні з другімі краінамі сьвету з гэткай самай колькасьцю насельніцтва абшар Беларусі шмат большы. Беларусы могуць самі пракарміць сябе. Трэба толькі гаспадарку весці так, як у Еўропе.

Астаюся з пашанай

**М.БАЯРОЎСКІ.**

Англія.

# СУМНАЯ ДАТА

Дарагія суродзічы!

З нагоды 74-х угодкаў Слуцкага паўстання перасылаем вам нашыя ўрачыстыя віншаванні з пажаданнямі.

Дзень 27-га лістапада 1920 года святкуецца беларусамі па ўсім вольным свеце, дзе іх закінула нядоля за межы роднай Бацькаўшчыны. Чытаюцца ўрачыстыя акадэміі -- адпраўляюцца Божыя службы, пяюцца патрыятычныя песні.

З таго часу, як случчакі аддалі свае жыцці на алтар роднай Бацькаўшчыны, мінула ўжо 74 гады, але памяць сярод беларусаў жыве.

Слуцкія паўстанцы не дачакаліся таго, аб чым марылі. Савецкая Расія і Польшча супольнымі сіламі зруйнавалі адбудаваную Беларускую Народную Рэспубліку, акупіравалі яе ды падзялілі паміж сабою ганебным, так званым Рыжскім трактатам у 1921 годзе. З таго часу прайшлі гады, акупанты Бацькаўшчыны не змаглі знішчыць волю і сілу беларуса, і ў наш час быў праяўлены народны ўздым падчас другой сусветнай вайны.

Гэты вялізны нацыянальны ўздым быў увенчаны арганізаваннем Ураду Беларускай Цэнтральнай Рады на чале з прэзідэнтам Р.Астроўскім і правядзеннем гістарычнага 2-га Усебеларускага кангрэса, які падмацаваў і дапоўніў запаветы 1-га Усебеларускага кангрэса.

Угодкі Слуцкага паўстання -- гэта сумная дата ў нашым календары нацыянальных святаў, бо гэта плач на рэках Бабілонскіх. І гэты плач, сум і гора будуць працягвацца так доўга, пакуль Беларусь і яе народ не будуць вольнымі. А зерне, кінутае ў глебу беларускімі патрыётамі, што памiралі, каб жыла Бацькаўшчына, не згінула марна, дало добры ўсход.

Герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг лунаюць над будынкам беларускага ўраду ў сталіцы Мінску, і маладая Беларусь крочыць у светлую будучыню.

Мы, беларусы Аўстраліі, жадаем беларускаму народу на Бацькаўшчыне вытрываласці ў ягоным змаганні за свае нацыянальныя правы. Мы верым у перамогу праўды. Мы верым, што Беларусь зойме сваё ганаровае месца сярод свабодалюбных народаў свету.

Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь і яе змагарны народ!

**За Выканаўчы камітэт Федэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі**

**Паўла ГУЗ, сакратар.**



**Зямля беларуская захоўвае нямала помнікаў архітэктуры мінуўшчыны. Ёсць яны і на Гродзеншчыне. Праўда, некалі раскошныя палацы князёў, гасцінныя двары, графскія сядзібы, культавыя збудаванні сёння толькі сваімі велічнымі знешнімі контурамі нагадваюць аб былой прыгажосці. І хоць цяпер пачата работа па рэстаўрацыі святынь, вядзецца яна няспешна.**

**Адна з такіх закінутых пабудоў -- старадаўняя сядзіба графа Храптовіча -- размешчана на тэрыторыі калгаса "Звязда" Навагрудскага раёна. А калі яе аднавіць, можна адкрыць тут рэдкую па прыгажосці базу адпачынку, напрыклад, для работнікаў мастацтва ці журналістаў. У калгаса няма сродкаў на такую рэстаўрацыю. А вось камерцыйныя структуры маглі б рызыкнуць укласці грошы ў добрую справу. Яна акупіцца поўнасцю, таму што размешчана сядзіба ў маляўнічым месцы, паблізу Нёмана, за сто кіламетраў ад сталіцы, да якой вядзе добрая шасейная дарога. А можна пабудаваць у сядзібе камфартабельны гасцінны двор. Мясціны ж і пабудовы тут усё яшчэ прыгожыя (на здымку).**

209

## 24.3. Скула на нашым целе

**ЗАХОП БАЛЬШАВІКАМІ ЎЛАДЫ НА БЕЛАРУСІ.** Паспяховы бальшавіцкі пераварот у сталіцы не прывёў да аўтаматычнага захопу ўлады паслядоўнікамі Леніна на беларускіх землях, як пра тое хваліліся пасля камуністы. Трыумфальнага шэсця Саветаў тут не было. Мела месца зусім іншая з'ява -- трыумфальны развал адміністрацыі Часовага ўрада. Бальшавікі не мелі на Беларусі трывалай улады аж да 1921 года. Але яны аказаліся спрытнейшымі за беларускіх адраджэнцаў і адразу ж пасля падзення Часовага ўрада пачалі хуценька прыбіраць яе да сваіх рук. Ужо 25 кастрычніка Мінскі гарадскі Савет спыніў паўнамоцтвы дэмакратычна абранай у жніўні гарадской думы і паставіў сябе на яе месца.

**БАРАЦЬБА З ЛЕНІНШЧЫНАЙ.** Але супраціўленне бальшавіцкаму экстрэмізму працягвалі прадстаўнікі старой улады і левацэнтрысцкія сілы ў Мінску, Магілёве, Оршы. У Мінску ў супрацьвагу бальшавіцкаму Савету ўтварыўся рэвалюцыйна-дэмакратычны орган улады пад назвай Камітэт выратавання рэвалюцыі Заходняга фронту. Была надзея прадухіліць ленінШчыну, як гэта было зроблена з карнілаўшчынай. Але з левым экстрэмізмам змагацца было цяжэй, бо, у адрозненне ад правага, ён умела карыстаўся сацыяльнай дэмагогіяй і меў падтрымку злюмпенізаванага вайной насельніцтва. Антыбальшавіцкае супраціўленне ў Мінску было спынена 2 лістапада, калі на дапамогу мінскаму Савету з Заходняга

210

фронту прыбылі вайсковыя злучэнні, у тым ліку бранявік. Яго камандзір, бальшавік Пралыгін, прабіўся ў горад толькі дзякуючы жорсткім пагрозам расстрэльваць стрэлачнікаў і знішчаць чыгуначныя станцыі.

**САВЕТЫЗАЦЫЯ.** Адразу ж пасля прыбыцця падмогі расійскія самазванцы стварылі Ваенна-Рэвалюцыйны Камітэт Заходняй вобласці, які стаў вышэйшым надзвычайным органам улады на Беларусі і фронце. Адной з першых мер новай улады было ўвядзенне цэнзуры над усімі выданнямі.

З 18 па 25 лістапада бальшавікі правялі ў Мінску адразу тры з'езды: абласны з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, абласны з'езд сялянскіх дэпутатаў і франтавы з'езд. Усе яны пад дыктоўку бальшавікоў выказаліся за неабходнасць для Беларусі савецкай улады і заланыылі адзіны Выканаўчы Камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзах). "Сялянскія дэпутаты" выбіраліся пад непасрэдным наглядам вайскоўцаў-бальшавікоў. Звычайных вясковых паўпераў лёгка было пераканаць, што ўлада павінна служыць толькі ім. Разважлівым жа гаспадарам проста закрывалі рот.

Аблвыкамзах увогуле не ўвабраў у сябе прадстаўнікоў беларускага руху. У склад вышэйшага органа ўлады, што стварылі бальшавікі, увайшлі людзі (Мяснікоў, Кнорын, Ландэр і К°.), якія пражылі на Беларусі каля года ці крышку болей і не ведалі ніводнага беларускага слова. Не ведалі яны ні жыцця, ні гісторыі, ні культуры нашага краю, але збіраліся

211

кіраваць ім. Гэтыя кіраўнікі, безумоўна, адлюстроўвалі інтарэсы фронту, але не Беларусі, якая для іх увогуле не існавала. Дзеячы Аблвыкамзаха варожа ставіліся да адраджэння беларускай дзяржаўнасці.

**ШТО ПАКАЗАЛІ ВЫБАРЫ ВА ЎСТАНОЎЧЫ СХОД.** За чужынцаў галасавалі не толькі вайскоўцы, але і цывільнае насельніцтва ў час лістападаўскіх выбараў ва Усерасійскі Устаноўчы Сход. Беларускія партыі і арганізацыі атрымалі мізэрны працэнт галасоў. Праўда, і бальшавікі набіралі больш паловы толькі ў арміі ды ў прыфрантавых губернях, для жыхароў якіх даражэй за ленінскі дэкрэт аб міры не было нічога. Спакутаванае вайной насельніцтва прыфрантавой паласы гатова было прагаласаваць і за д'ябла, калі той паабяцаў мірнае жыццё. І зноў жа, у прыфрантавых губернях галасаваць можна было толькі так, як таго жадалі ўзброеныя салдаты, якім абрыдлі акопы. У Магілёўскай жа губерні бальшавікі атрымалі ўсяго 23 працэнты галасоў. Тут лідзіравалі эсэры, якія ўсё больш разыходзіліся з пануючай партыяй і схіляліся да супрацоўніцтва з мясцовымі нацыянальнымі сіламі. Камісараў Заходняй вобласці большасць беларускага насельніцтва не падтрымлівала. Іх не прызнавала і мінская дума. А таму не выпадкова, што некаторыя бальшавіцкія лідэры разглядалі Беларусь усяго як разменную манету ў перамовах з немцамі аб міры, якія пачаліся 19 лістапада.

Значыць, барацьба беларусаў за ўладу на сваёй зямлі была далёка не безнадзейнай. Расійскія Саветы не мелі на беларускіх землях

212

манаполіі на ўладу. Паралельна з імі, як ужо вядома, пашыралася сетка беларускіх арганізацый. За імі стаяў беларускі народ, які жыў не толькі ў дзвюх прыфрантавых губернях і які яшчэ не сказаў свайго слова.

## 24.4. Усебеларускі з'езд

**НЕПАЗБЕЖНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА.** Каля сярэдзіны лістапада 1917 года Вялікая Беларуская Рада і Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада выдаюць адозву "Ко всему народу Белорусскому", дзе заклікаюць суайчыннікаў узяць у свае рукі кіраванне краем, а дзеля гэтага абвяшчаюць аб скліканні ў снежні ў Мінску з'езда прадстаўнікоў усяго беларускага народа. Мяркуецца ўтварыць беларускую дэмакратычную рэспубліку ў рамках расійскай федэрацыі. Амаль адначасова такую ж ініцыятыву высоўвае ў Петраградзе і Беларускі Абласны Камітэт пры Усерасійскім Савеце Сялянскіх Дэпутатаў на чале з Я.Канчарам. Камітэт займае прасавецкія пазіцыі і толькі прыкрываецца нацыянальнымі імкненнямі, а таму і карыстаецца афіцыйнай падтрымкай.

**СУПРАЦЬДЗЕЯННЕ АБЛАСНІКОЎ.** Бальшавіцкія камісары на Беларусі рабілі ўсё, каб не дапусціць склікання з'езда, бо баяліся, што ён пазбавіць іх улады. Аблвыкамзах і Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці катэгарычна заклікалі насельніцтва ўстрымацца ад усялякіх з'ездаў. Адносіны беларускіх і прарасійскіх арганізацый у Мінску адразу ж набываюць варожы характар. Цэнтр горада займа-

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

213

юць беларускія арганізацыі. Вялікая Беларуская Рада і Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада працуюць у губернатарскім доме. Ускраіны горада, казармы, штаб Заходняга фронту і вакзал кантралююцца камісарамі. З абодвух бакоў збіраюцца сілы. Прэзідыум Вайсковай Рады ў складзе Рак-Міхайлоўскага, Езавітава, Грыба, Мамонькі, Захаркі збірае беларускія вайсковыя злучэнні. Узмацняецца 1-шы Беларускі Мінскі полк. У Оршы ствараецца Беларускі конны полк. 30 лістапада бальшавіцкія ўлады ўводзяць у Мінску ваеннае становішча, а 2 снежня забараняюць фарміраванне беларускіх часцей, хоць на тое меўся дазвол галоўнакамандуючага Крыленкі, назначанага Леніным.

**ПАЗІЦЫЯ БАЛЬШАВІЦКАГА ЎРАДА.** Але нечакана для абласнікоў Народны камісарыят па справах нацыянальнасцяў, які ўзначальваў І.Сталін, дазволіў Беларускаму Абласному Камітэту правесці Усебеларускі з'езд і выдаў для яго патрэб 50 тысяч рублёў. Бальшавіцкі ўрад прызнаваў безумоўнае і поўнае права самавызначэння беларускага народа, але ў той жа час ставіў умову, каб краёвая ўлада належала краёваму Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў. І ў прыватнасці, Сталін імкнуўся пакінуць кіраванне беларускімі землямі ў руках Аблвыкамзаха, ад якога беларусы самавызначэння не дачакаліся б. Сталін хацеў узаконіць з дапамогай Беларускага з'езда панаванне на Беларусі самазванцаў, якія трымаліся тут на штыках вайскоўцаў. Але што гэта была за ўлада, калі яна ўжо нікога не прадстаўляла. Салдаты,

214

былыя выбаршчыкі Аблвыкамзаха, разбягаліся па дамах. Пасля пачатку перамоў з немцамі, у лютым 1918 года, на Заходнім фронце пад ружжом засталося 70 тысяч салдат з некалі двухмільённага войска.

**ПАДРЫХТОЎЧЫ ПЕРЫЯД.** 5 снежня ў Мінск прыязджаюць першыя 300 дэлегатаў Усебеларускага з'езда. Пачаліся стварэнне камісій, выпрацоўка рэзалюцый. З нагоды з'езда на імя Беларускай Вайсковай Рады ішлі наказы беларусаў-вайскоўцаў. Яны падтрымлівалі бальшавіцкія дэкрэты аб зямлі, міры і праве народаў на нацыянальнае самавызначэнне, але не прызнавалі Аблвыкамзах і лічылі, што да Вялікага беларускага ўстаноўчага сходу ўлада ў краі павінна належаць Вялікай Беларускай Радзе альбо Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Радзе. Апранутыя ў салдацкія шынялі сяляне прасілі ўстанавіць на Беларусі "ўладу таго сярмяжніка, якога ўсе нацыянальнасці на працягу некалькіх вякоў асмейвалі і аплёўвалі". Былі прапановы паслаць прадстаўнікоў ад беларускага народа на мірныя перамовы з немцамі і вярнуць усіх мабілізаваных беларусаў на радзіму для фарміравання нацыянальных палкоў.

7 снежня бальшавіцкі лідэр на Беларусі А.Мяснікоў абвясціў нарэшце загад Крыленкі ад 23 лістапада аб парадку фарміравання такіх палкоў. Толькі якраз у гэты дзень Украінская Рада пачала ўзброеную барацьбу з Саветамі, і дзейнасць беларускіх вайсковых злучэнняў зноў падпала пад забарону. Гэтае здарэнне зусім пазбавіла беларускі з'езд ваеннай падтрымкі. Хоць уплыў Вайсковай Рады ў былым

215

Мінскім Беларускім палку заставаўся вялікім, але ў ім нават стрэльбаў не ўсім хапала. А камісары тым часам сцягвалі ў Мінск усе верныя ім вайсковыя часці.

**АДКРЫЦЦЁ З'ЕЗДА.** Усебеларускі з'езд адкрыўся 15 снежня. Сабралася каля 2 тысяч прадстаўнікоў беларускага народа. Было б, відаць, і болей, калі б бальшавікі не чынілі перашкод па фарміраванню беларускіх вайсковых арганізацый і не затрымлівалі перадачу праз тэлеграфнае агенцтва інфармацыі аб з'ездзе па ўсіх франтах і армейскіх злучэннях. Тым не менш, ні адной нацыі за перыяд расійскай смуты не ўдалося арганізаваць такога прадстаўнічага форуму. На з'езд прыехалі пасланнікі ад валасных сялянскіх земстваў і камітэтаў усёй этнаграфічнай Беларусі. Там былі прадстаўнікі павятовых і губернскіх земстваў, гарадскіх самаўпраўленняў, Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, вайсковых беларускіх арганізацый усіх франтоў і тылу, бежанскіх камітэтаў, нацыянальных палітычных партый, кааператываў, прафсаюзаў і іншых аб'яднанняў. Большасць дэпутатаў у палітычных адносінах належала да партыі эсэраў і да беспартыйных. Па сацыяльнаму складу з'езд з'яўляўся пераважна сялянскім.

Ганаровым старшынёй з'езда адзінадушна абіраецца сусветнавядомы навуковец акадэмік Яўхім Карскі. Кіруе пасяджэннямі Іван Серада. На з'ездзе пануе атмасфера прыўзнятасці і напружанасці. Людзей самых розных палітычных поглядаў і перакананняў яднае агульнае імкненне да захавання свайго нацыянальнага

216

"я", да зберажэння свайго роднага краю. Выяўляюцца і незалежнікі, і абласнікі. Але паступова ўсе сваркі адыходзяць на задні план. Усім становіцца зразумела, што выратаванне -- у стварэнні мясцовых органаў улады, бо чужынскія для таго не падыходзяць. Дэлегатам надавала ўпэўненасць і пісьмовае сведчанне ад наркамнаца Сталіна, што пастанова з'езда будзе абавязковай для савецкай улады. У той час як з бальшавіцкага цэнтра Беларускі з'езд улагоджваўся, СНК Заходняй вобласці рыхтаваў супраць яго правакацыю. Зараз стала вядомай тэлеграма кіраўніка бальшавіцкай адміністрацыі Мяснікова, у якой ён загадваў таварышам пасварыць дэлегатаў і зрабіць з'езд безвыніковым. Толькі здзейсніць гэта не ўдалося.

**ГВАЛТОЎНЫ РАЗГОН З'ЕЗДА БАЛЬШАВІКАМІ.** У ноч з 17 на 18 снежня дэлегаты прыступілі нарэшце да пытання аб абвяшчэнні Беларускай рэспублікі. Убачыўшы, што беларускія незалежніцкія ідэі перамагаюць, мяснікоўцы, каб не выпусціць уладу з рук, вырашылі разагнаць з'езд. Каля гадзіны ночы 18 снежня падагрэтыя гарэлкай вайскоўцы пры падтрымцы вершнікаў і двух браневікоў акружылі памяшканне, дзе праходзіў з'езд, а праз паўгадзіны ўварваліся ў залу пасяджэння і пусцілі ў ход прыклады. Дэлегаты ўзвялі барыкады і, пакуль п'яныя камісары пераадольвалі іх ды "загадвалі з'езду маўчаць", паспелі прыняць рэзалюцыю аб увядзенні ў межах беларускай зямлі рэспубліканскага ладу, а таксама вылучыць са свайго асяроддзя орган краёвай улады -- Усебеларускі Савет Сялянскіх, Салдацкіх і Рабочых Дэпутатаў для кіравання краем да склікання Беларускага Ўстаноўчага Сходу.

## ПРА ЯГО ДАГЭТУЛЬ ГАВОРАЦЬ ПАЎШЭПТАМ

# ХТО Ж ЁН, ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ?

Ацэнка вельмі высокая. Рост адраджэння М. Гарэцкі звязваў з творчасцю, па сутнасці, нікому яшчэ невядомага драматурга. І не толькі выдаваў яму авансы, прызнаваў, што той ужо шмат зрабіў для адраджэння. Ды ці толькі М. Гарэцкі такой высокай думкі аб пачатку творчай дзейнасці Ф. Аляхновіча?! Не менш красамоўнае сведчанне ёсць у Я. Карскага: "Літаратурную сваю дзейнасць на беларускай ніве ён пачаў з таго, да чаго прыходзяць пісьменнікі пры звычайным развіцці толькі ў канцы сваёй творчасці, менавіта з драмы. Прычынай гэтага, напэўна, з'яўляецца грамадскае становішча аўтара: ён адзін з лепшых беларускіх акцёраў. Заўважаючы недахоп у беларусаў драматургічных твораў, ён вырашыў папоўніць лік іх часткова перакладамі, часткова самастойнымі творамі. У гэтых адносінах яго дзейнасць цудоўна супала з імкненнем і іншых беларускіх пісьменнікаў у дадзены момант даць публіцы драмы..."

З нецярпеннем чакаў Ф. Аляхновіч вызвалення з-за кратаў. Яно супала з акупацыяй Вільні немцамі: ішла, як вядома, першая сусветная вайна. Цяжкасцей не паменшала. Давялося змяніць не адну работу, каб хоць неяк зводзіць канцы з канцамі. Ды Ф. Аляхновічу было, як кажуць, не прывыкаць. Ён і служачым быў ва ўстановах, і шыльды пісаў, і прафесію маляра агораў. Да ўсяго настаўнічаў, нават працаваў карэктарам. Але ўсе гэтыя турботы былі дробяззю ў параўнанні з тым, што ён зноў свабодны і знаходзіцца не дзе-небудзь, а ў горадзе свайго маленства.

Вільня... Яе Ф. Аляхновіч вельмі любіў і, бадай, не ўяўляў для сябе іншага месца на зямлі, больш прыгожага, чым гэта. Любіў, хоць сама Вільня свайму сыну не заўсёды адказвала ўзаемнасцю. Урэшце, ён сам сказаў аб гэтым у адным са сваіх вершаў:

**Ты, Вільня, мяне ўзгадавала...**
**Тут сніў я дзіцячыя сны!..**
**Не раз была мачахай ты, --**
**Душы маёй боль задавала,**
**З-за вугла каменні кідала**
**З нязнанай братняй рукі,**
**І чару ад вусн адбірала,**
**Хаця я ўміраў ад смагі...**

Ды любоў да Вільні, як і любоў да мастацтва, змушала пераадольваць сваё, асабістае. Ф. Аляхновіч жыў ідэямі Адраджэння і праводзіў іх у жыццё, як толькі мог, хоць часта гэта каштавала неймаверных высілкаў і даводзілася працаваць без супыну.

Калі ў акупіраваным горадзе аднавілася культурнае жыццё, Ф. Аляхновіч стварыў драматычны гурток, у якім паставіў спектакль "Хам" паводле Э. Ажэшкі. А 26 снежня 1916 года адбылася прэм'ера пастаноўкі яго ўласнай п'есы "На Антокалі". Адну з роляў выконваў сам аўтар. Спектакль быў высока ацэнены тагачаснай тэатральнай крытыкай, заўважылі рэцэнзенты і ігру самога Ф. Аляхновіча.

Акрылены поспехам, ён бярэцца ў тым жа 1916 годзе за п'есу "На вёсцы". Атрымаўся твор, пабудаваны на традыцыйным любоўным трохкутніку.

З'яўляюцца і іншыя творы Ф. Аляхновіча. Як уласна аўтарскія -- "казка ў трох актах" "Базылішк" ("надта паэтычны мастацкі твор", так ацаніў яе М. Гарэцкі), "Манька" (кажучы зноў вуснамі М. Гарэцкага, "каларытная жывасць нашага местачковага жыцця гарманічна зліваецца з глыбінёй думкі"), так і п'еса "Бутрым Няміра", напісаная паводле легенды В. Ластоўскага "Каменная труна".

Аднак з твораў Ф. Аляхновіча гэтага перыяду, на маю думку, асабліва вылучаецца "сцэнічны абразок у двух актах" "Калісь". Падзеі адбываюцца ў 1905--1906 гадах. Галоўны герой -- малады рабочы Ягор Івашка з людзей, якія актыўна змагаліся з самадзяржаўем за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Вобраз яго атрымаўся каларытным, пазбаўленым ідэалізацыі, якая, на жаль, як сведчыць вопыт літаратуры, была характэрна для шмат якіх твораў таго часу.

Івашка -- перакананы ідэйны баец. Менавіта з такой пазіцыі неабходна падыходзіць да яго і ягоных дзеянняў. Тым больш гэта важна сёння, калі ў пераацэнцы мінулага шмат ахвочых кідацца ў крайнасці. Зварот да Ф. Аляхновіча ў даным выпадку, думаецца, карысны. Ён ніколі не быў рэвалюцыянерам, але як таленавіты мастак, не абмінаў сваім поглядам важных гістарычных падзей, раскрываў іх праўдзіва, адмяжоўваючыся ад асабістых схільнасцяў і меркаванняў. Што тычыцца ўласных перажыванняў, дык пра гэта ён расказаў у пазнейшай сваёй п'есе "Няскончаная драма", пра якую гаворка яшчэ пойдзе.

А пакуль што, напісаўшы першыя творы, зразумеўшы, што знайшоў прызванне, Ф. Аляхновіч чарговы раз стаў перад выбарам, што рабіць далей. У Вільні ў яго было па-ранейшаму шмат аднадумцаў і прыхільнікаў, але пасля вызвалення гэты горад перастаў ужо лічыцца беларускім культурным цэнтрам. Ім стаў Мінск, як сталіца будучай рэспублікі.

Ф. Аляхновіч дзейнічае, як і ў маладосці, рашуча, без аглядкі. Па словах М. Гарэцкага, "дачуўшыся аб шырокай беларускай рабоце ў Мінску, Аляхновіч без нямецкага пропуска, пехатою, без грошай у кішэні пусціўся ў дарогу. Пераапрануўшыся фурманам, ён з нейкімі засцянковымі шляхцянкамі перабраўся праз лінію старога фронту (каля Маладзечна) і, абарваны, босы, з ранамі на нагах, пасля васьмідзённага падарожжа прыйшоў у Мінск".

І трэба сказаць, хутка ўліўся ў новае для яго творчае асяроддзе. Як вядома, дзякуючы Ф. Ждановічу, У. Фальскаму, у Мінску ў красавіку 1917 года было створана Першае беларускае таварыства драмы і камедыі. Да яго работы і падключыўся Ф. Аляхновіч. Ён паставіў свайго "Бутрыма Няміру", выканаў у спектаклі галоўную ролю. Крытыка і гледачы ў захапленні, а Ф. Аляхновіч вырашае арганізаваць уласную трупу. Для яе піша вадэвіль "Чорт і баба", па-мастакоўску асэнсаваўшы вядомую беларускую народную казку. Зноў поспех: спектакль "усюды заваяваў беларускую сцэну".

Каб надаць тэатральнай справе больш размах, лепш згуртаваць акцёраў, трупы Ф. Ждановіча і Ф. Аляхновіча аб'ядналіся ў Беларускі савецкі тэатр. Само па сабе гэта стала ўжо з'явай. Аднак Ф. Аляхновіч не спыняецца на гэтым. Як успамінаў ён, "праектуецца арганізаваць пяць аб'язных драматычных дружын. Укладаецца план заснавання ў Мінску драматычнай студыі дзеля падрыхтоўкі кадраў новых артыстаў..." Што планы засталіся планамі, віны арганізатараў няма. Мінск акупавалі белапаляki.

Тым не менш і ў гэты час, калі нельга было пэўна сказаць, якая ўлада канчаткова возьме верх, Ф. Аляхновіч паспеў стварыць п'есы, што і сёння выклікаюць цікавасць. Напрыклад, у 1918 годзе прайшла прэм'ера па п'есе "Страхі жыцця". Бадай, як ні ў адным іншым творы, у ёй шмат песімізму, становішча, у якім апынуліся галоўныя героі, бязвыхаднае. Што ж, драма адлюстравала само жыццё тагачаснага грамадства. Нездарма Ф. Аляхновіч зрабіў такое прысвячэнне: "Ахвярую той, каторая была мне вернай Таварышкай у жудасныя часіны 1915--1918 года". "Тая", відаць, і дапамагала творцу выжыць, не трапіць у становішча, што напаткала герояў п'есы "Страхі жыцця".

Па сутнасці тыя ж "страхі жыцця" паўстаюць і са старонак п'есы "Цені" (1919). Даючы ёй ацэнку, М.Гарэцкі агаварыўся: "Глыбока задуманы і мастацкі твор гэты, аднак, зусім не нацыянальны і значэнне яго ў нашай драме аналагічна значэнню апавядання А.Гаруна "П'ера і Каламбіна" ў нашым эпасе". Даследчык меў на ўвазе літаратурнасць драматургічнай асновы. Аднachасова ён заўважыў і пэўную кампазіцыйную рыхласць п'есы, але М.Гарэцкага прывабіла сама задума: "Галоўная думка драмы, не зусім ясна і даступна выказаная, не маючая пэўнага адзінства ў сваім вытлумачэнні, і заключаецца, паводле актавых прадмоў, вось у чым: людзі -- нікчэмныя капашлівыя чарвякі, мізэрныя мімаходныя цені, жыццё іх -- мамэнцік Вечнасці і, аднак, надароныя веснавымі паэтычнымі парываннямі, яны часам лезуць у спрэчку з Вечнасцю, хочуць здабыць яе Тайну, -- і ў тым краса і сэнс іх існавання".

Людзі-чарвякі... Вечнасць і імгненне асобнага жыцця. Абставіны, што пастаянна гнятуць, і прага дзейнасці, творчасці, жаданне любым спосабам узняцца над імі, вырвацца з іхняга палону, цiскоў. У пэўнай ступені гэтыя праблемы -- вечныя і пастаянныя, як і само жыццё, -- асэнсоўваюцца ў "Няскончанай драме". "Рэч дзеецца ў Вільні ў часы нямецкай акупацыі", -- удакладняў аўтар. Ды і без гэтага ўдакладнення і так усё зразумела. З роспаччу прызнаецца галоўны герой Васіль: "Ох, каб толькі вырвацца з гэтай Вільні! Зачынілі нас немцы тутака, як у клетцы, адарвалі нас ад усходняй Беларусі -- і рабі што хочаш!.. Іншы раз дык проста думаецца прабрацца неяк праз фронт: там -- я думаю -- кіпіць жыццё, там развіваецца шырокая беларуская работа!.."

Аўтабіяграфізм тут відавочны, як відавочна, што ў Ф.Аляхновіча няпростымі былі і стасункі з тымі, каму давяраў ён, дзяліўся адраджэнскімі ідэямі. У п'есе супастаўляюцца два персанажы -- Васіль і Кастусь, ягоны прыяцель. У іх шмат агульнага, і гэтая агульнасць падмацавана яшчэ даўнім сяброўствам. Як кажа Васіль, "нас звязвае дружба з малку дзён -- успамін дзіцячых гадоў -- гэта многа значыць... І цяпер, хоць жыццё душу кожнага з нас выхавала на іншы лад, хоць мы шмат адзін ад аднаго розьнімся і шмат у чым не згаджаемся -- гэты невідавочны вузел з дзіцячых гадоў звязвае нас з няменшай сілай, чым калісь. І вось адтуль у нас гэткія адносіны". Кастусь дапамагае Васілю матэрыяльна, з ахвотай радуецца за яго творчую працу. У той жа час сам не надта адкрываецца: "Ёсць у яго душы нешта гэтакае, чаго ён не хоча казаць". Мае фальварак, а жыве ў горадзе.

У чым жа прычына некаторых непаразуменняў? На гэта, уласна кажучы, і дае адказ п'еса. Ф.Аляхновіч псіхалагічна заглыблена выпісвае Васіля, перакананы, што калі бліжэй пазнаёмішся з ім, лёгка адчуеш, што за чалавек і Кастусь. І гэта сапраўды так. Васіль -- натура творчая, а, значыць, у многім рамантызаваная, здатная глядзець на свет у ружовых фарбах. Аднак не значыць, што асабістае можа ўзяць у яго верх над грамадскім. Якраз наадварот. Хоць ён перажывае, што хварэе жонка, радуецца за маленькага сына, галоўнае для Васіля -- адраджэнская дзейнасць: "Годзе гэтай лірыкі, гэтага пяяння аб сваіх асабістых перажываннях! Хочацца, ведаеш, нечага магутнага, як удар молата па жалезным лісце... Хочацца закрануць усе нашы важныя пытанні, сцебануць па нервах, як пугай, ашаламіць натоўп! Пішу і баюся брацца за пяро. Баюся, ці хваце мне сіл, ці ўсё гэтак выйдзе, як бачу ў думках сваіх".

За гэтымі словамі, без сумнення, сам Ф.Аляхновіч з яго ваганнямі і няпэўнасцю, з яго верай і прагай актыўнай дзейнасці. Жыць дзеля тэатра, жыць дзеля літаратуры -- тут яны аднадумцы. І сам драматург, і яго Васіль. Гэтае адмаўленне ад многіх жыццёвых выгод даецца нялёгка. Характэрная размова адбываецца ў Васіля з жонкай:

**Ядзька:** Усе кажуць, што ты здольны чалавек, ты ж мог бы дастаць нейкую добрую службу, а ты сядзіш у гэтай беларускай газеціне, працуеш, як вол, і нават на такое-сякое жыццё зарабіць не можаш.

**Васіль:** У іншую багацейшую газету? Дык мне там прыйшлося б кожны дзень чуць розныя лаянкі на беларусаў, а можа і самому пісаць!

Сваё існаванне Васіль напаўняе адзінай марай: "каб быў працяг майго жыцця тут на зямлі, каб нехта рабіў маю няскончаную працу, вось тады ён, мой наступнік, будзе цягаць каменне на піраміду маёй ідэі". У іншым выпадку ён сцвярджае не менш канкрэтна: "Я веру -- а вера робіць цуды... Быў час, калі беларускіх адраджэнцаў была толькі малюпасенькая жменька, але яны верылі ў сваю справу, і стаўся цуд!.. Цяпер -- грамада!.." Васіль перакананы: "Трэба мець веру ў сваю ідэю, і ўскалыхнеш народ!"

Сумнення няма: гэта мовіў сам Ф.Аляхновіч. Гаварыў тое, у чым быў перакананы. І, як даволі часта бывае ў падобных выпадках, жаданне выдаваў за рэальнае. Сам апантаны адраджэнскай справай, хацеў, каб гэтак жылі і іншыя. На жаль, падобнага не адбывалася. Спрацоўвала спаконвечная нейкая беларуская "сарамлівасць", сказваўся нацыянальны нігілізм. Самае ж страшнае было ў тым (ды і хіба сёння не так!), што ён моцна пусціў свае карэнні ў людскіх душах. Безумоўна, Кастусь у спрэчках з Васілём у нечым драматызаваў сітуацыю, праяўляў празмерны песімізм, але -- хочаш пагаджайся -- хочаш не пагаджайся -- і ў яго развагах знаходзілася рацыянальнае зерне: "Ты не ведаеш народу, ніколі ты не быў на вёсцы. Ідзі на вёску, глянь! Папрабуй там казаць аб Беларусі, аб бацькаўшчыне -- усе падумаюць, што ты з глузду з'ехаў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

Працяг. Пачатак у № 43.

## АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН



**Беларусь страціла аднаго са сваіх адданых сыноў, таленавітага працаўніка на ніве нацыянальнай культуры. 24 кастрычніка 1994 года перастала біцца сэрца Анатоля Вялюгіна -- паэта, перакладчыка, кінадраматурга, мудрага настаўніка творчай моладзі.**

**Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін нарадзіўся 27 снежня 1923 года ў вёсцы Машканы Сенненскага раёна на Віцебшчыне. Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся на рабфаку ў Віцебску, на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута, спалучаючы вучобу з працай у рэдакцыях газет "Звязда", "Чырвоная змена". Тады ж надрукаваў у рэспубліканскіх выданнях свае першыя вершы.**

**Падчас Вялікай Айчыннай вайны з 1942 года -- у Чырвонай Арміі, пасля заканчэння Лугінскай авіяшколы -- на Сталінградскім фронце. У 1943 годзе быў цяжка паранены, доўгі час лячыўся ў шпіталях.**

**У Мінск вярнуўся ў маі 1945 года. У 1948 годзе скончыў завочна Мінскі педінстытут, працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва" (1945--1946 гады), а пасля з невялікімі перапынкамі да 1984 года -- у часопісе "Полымя" рэдактарам аддзела паэзіі.**

**Сваімі першымі кнігамі вершаў "Салют у Мінску" (1947 год), "Негарэльская арка" (1949), "На подступах" (1952) А.Вялюгін сцвердзіў сябе як выдатны майстар паэтычнага слова, мастацкай дэталі. Асабліва ярка яго талент раскрыўся ў кнігах "На зоры займае" (1958), "Насцеж" (1960), "Верасовы ўзятак" (1974), "Песня зялёнага дуба" (1989). За паўвека творчай працы ім выдадзена каля двух дзесяткаў паэтычных кніг (з іх пяць -- для дзяцей), напісаны сцэнарыі мастацкага двухсерыйнага тэлефільма "Рэха ў пушчы", мастацкага фільма "Глядзіце на траву" і 40 дакументальных фільмаў, у якіх апаэтызавана прыгажосць роднай зямлі, веліч і мужнасць яе людзей.**

**У славянскім свеце шырока вядомы і як перакладчык. Дзякуючы майстэрству А.Вялюгіна на беларускай мове загучалі М.Лермантаў, А.Міцкевіч, У.Бранеўскі, Ю.Тувім, У.Маякоўскі, М.Нагнібеда, П.Варанько, Д.Белавус.**

**Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І ступені, "Знак Пашаны", многімі медалямі. Яму прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы, Дзяржаўнай прэміі БССР.**

**А.Вялюгін быў не толькі выдатным паэтам, але і мудрым, добразычлівым настаўнікам літаратурнай моладзі.**

**У некралогу, падпісаным грамадска-палітычнымі дзеячамі і яго калегамі-літаратарамі, гаворыцца, што паэтычная творчасць А.Вялюгіна, як і яго пераклады і кінасцэнарыі, -- гэта неацэнны ўклад у нашу нацыянальную культуру, гэта тая спадчына, якою будзе вечна ганарыцца Бацькаўшчына. Усім сваім творчым лёсам, самаадданым служэннем паэзіі А.Вялюгін здабыў пачэснае месца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў.**



Незвычайны груз пойдзе ў бліжэйшы час у адрас пасольства Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль. У ім дар Беларускага фонду дапамогі развіццю мастацтва -- бронзавая скульптура сусветна вядомага мастака Марка Шагала, выкананая скульптарам Святланай Гарбуновай.

Як вядома, лепшыя творчыя гады М.Шагал правёў за мяжой. І ўсё ж у работах мастака пастаянна прысутнічалі блізкія яго сэрцу матывы роднага Віцебска. Менавіта гэтую ідэю і заклала ў сваёй скульптуры С.Гарбунова: ля ног маладога М.Шагала -- куткі старога Віцебска, фрагменты работ мастака. І думаецца, скульптура гэтая пасля ўстаноўкі ў нашым пасольстве пастаянна будзе нагадваць, што як бы далёка лёс ні закінуў чалавека, няма ў яго даражэйшай зямлі, чым тая, дзе ён нарадзіўся.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: скульптар Святлана ГАРБУНОВА і яе работа "Марк Шагал".**

**Фота аўтара.**

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

## ДЗЯКУЙ ГАЗЕЦЕ!

Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" і Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і школ горада Мінска правялі дабрачынную акцыю па падпісцы на беларускія выданні ў школах сталіцы. У чацвёртым квартале 1994 года сто мінскіх беларускіх сярэдніх школ будуць атрымліваць газету "Голас Радзімы". Выданне ўяўляе цікавасць для шырокага кола творчай інтэлігенцыі, а таксама для ўсіх, каму неабыякавая будучыня нашай дзяржавы. Мяркуем: матэрыялы па гісторыі, літаратуры, краязнаўству і іншыя змогуць зацікавіць настаўнікаў школ і будуць выкарыстаны на ўроках.

Спадзяемся, што, пазнаёміўшыся з газетай бліжэй, вы будзеце і надалей яе сябрам.

Гарадскі бацькоўскі камітэт выказвае ўдзячнасць калектыву "Голасу Радзімы" за яго працу і ўпэўнены, што да гэтага далучацца і кіраўнікі школ, якія атрымалі газету ў падарунак.

**Старшыня ГБК**
**Алесь ШАМАК.**

# КНІГА ЗАГАДКАВАГА ЛЁСУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

А можа гэта яшчэ было зроблена і дзеля таго, каб сінод, яго духоўныя чыноўнікі зацікавіліся беларускай кніжкай, беларускімі трывогамі, патрэбамі, а праз іх і лёсам народу. Усё ж ішло да гэтага. Выключна праз нейкі год пасля выхаду зборніка "Пес'ні", у 1905-м, будзе знята забарона з беларускай мовы, беларускага кнігадрукавання... Так што памета -- друкавана ў "синодальной типографии" была шматзначная...

Ну але дзе ж усё ж былі выдадзены беларускія "Пес'ні"? Выказвалася і выказваецца меркаванне, што ў Лондане. Чаму такое меркаванне? У 1903 годзе ў Лондане выходзяць тры агітацыйныя беларускія брашуры: "Хто праўдзівы прыяцель беднага народу?", "Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць" (варыянт "Дзядзькі Антона"), "Як зрабіць, каб людзям добра стала на свеце". Вось гэта і дало падставу выказаць меркаванне, што ў Лондане выйшлі беларускія "Пес'ні".

Хто ж выдаўцы, укладальнікі? Хто клапаціўся пра выданне, друкаванне?

На гэтыя пытанні найперш маглі б адказаць два аўтары -- Цётка і Карусь Каганец. Пэўна, яны ведалі, хто ўкладаў "Пес'ні", хто і дзе іх друкаваў. Але аўтар згаданага зборніка не толькі іхні клопат. Найперш да яго выдання далучныя заснавальнікі "Беларускай рэвалюцыйнай партыі", створанай у 1902 годзе студэнцкай моладдзю, у якую ўвайшлі Антон і Іван Луцкевічы і згаданы ўжо пісьменнік Карусь Каганец. Менавіта яны, выконваючы сваю праграму -- "пашырыць культуру на роднай мове", спрычыніліся да выдання "Пес'няў". Пра гэта гаворыцца ў дакументах генеральнага штаба другога аддзела Варшавы за 1928 год, "Ніва", Беласток (7.1.1990). Пра тое, што зборнік "Пес'ні" выдала згаданая партыя -- у тым жа 1902 годзе яна змяніла свой назоў на "Беларуская рэвалюцыйная грамада", -- сведчыў і Алесь Бурбіс: "Спачатку гэтая партыя адпрацаванай праграмы не мела, яна распаўсюджвала надрукаваныя за граніцай творы Ф. Багушэвіча, выразна адзначаючыя сацыяльную несправядлівасць і клічучы беларускія народныя масы да практычна-рэвалюцыйнай працы. Яна друкуе ў Лондане кніжку яго твораў на папяроснай паперы пад назвай: "Пес'ні" з надпісам на вокладцы: "С разрешения Синодальной типографии". ("Весьнік народнага камісарыята асьветы СРРБ N 1 1922 г., с. 7).

Звесткі, паведамленыя Алесем Бурбісам, безумоўна, праўдзівыя. Ён стаяў ля вытокаў нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі, быў блізка знаёмы з яго ідэолагамі, правадырамі -- Іванам ды Антонам Луцкевічамі і меў самую непасрэдную інфармацыю з першых вуснаў. Пра тое, што зборнік "Пес'ні" выйшаў у Лондане, паведамляецца таксама ў кнізе Я. Найдзюка "Беларусь учора і сьяння".

Які ж лёс "Пес'няў"?

Як сведчаць абвесткі ў "Нашай Долі", у верасні 1906 года згаданы зборнік яшчэ прадаваўся ў віленскай літоўскай кнігарні Марыі Пясецкай-Шляпэліс. Пра гэта паведамляецца ў першым і другім нумарах згаданай газеты. Вось адна з такіх абвестак: "Літоўская кнігарня М. Пясэцкой-Шляпэліс (Вільня, Домініканская ул. 13) прадае рожные беларускіе кніжкі, як то -- Элементар Беларуски, Казки, Вязанка, Дудка Бурачка-Багушэвича, Скрыпка Беларуская, Смык Беларуски, Пес'ни, Што такое свобода и другие". Але ўжо пачынаючы з 1907 года "Пес'ні" нідзе не згадваюцца ў спісах наяўнай літаратуры. Ці то прадалі іх, ці канфіскавалі. У трэцім нумары "Нашае Долі", прыкладам, паведамлялася: "...у панядзелак паліцыя зрабіла обыск у рэдакцыі газэты "Эхо"<...> Пасля прыйшла паліцыя да кнігарні Шляпэліса, што прадае кніжкі літоўскія і беларускія, і ў яго забралі нейкія пісулькі и книжку беларускую "Хрэст на свабоду..." Якраз з канца 1906 і пачатку 1907 года пачаўся канфіскат беларускіх кніжак, прынамсі, Багушэвічавых.

У нашай Нацыянальнай бібліятэцы ёсць два асобнікі згаданых "Пес'няў". Адзін з іх без вокладкі, толькі з тытульным і то з абшматаным, абшарпаным, з паскубленым нізам. Другі ў добрым стане, з салаватай вокладкай і дае нам натуральнае ўяўленне пра аблічча легенднай кніжкі, кніжкі няпростага лёсу. Кніжка з круглай зеленкаватай пячаткай латвійскай бібліятэкі: "Valsts Biblioteka Latv. PSR". Спроба высветліць яе гісторыю, як яна патрапіла ў нашу Нацыянальную бібліятэку, аказалася беспаспяховай: ніхто нічога пэўнага не ведае. Магчыма, у Нацыянальную бібліятэку яна трапіла шляхам абмену. Ва ўсякім разе зразумела адно: латвійская бібліятэка захавала для Беларусі ў добрым стане асобнік цяпер ужо рэдкай і такога загадкавага лёсу кнігі. Зборнік "Пес'ні" адметны яшчэ і тым, што гэта была першая спроба выдаць Багушэвічавы творы кірыліцай, наблізіць песнярову творчасць да праваслаўнага люду Беларусі. Ці ўдалася гэта спроба? Не сказаць, каб надта. Шмат наборных абмылак (вядома, дзе набіралася кніжка), не ўсюды вытрымана беларуская фанетыка, шмат дзе парушана Багушэвічава




пісьмо. Але пра гэта размова асобая. Галоўнага ж укладальнікі і выдаўцы дасягнулі: яны выдалі кніжку, якой praglі людзі, тутэйшы народ. Набліжаўся 1905 год — той год, пра які пясняр новага часу Янка Купала скажа, што і да беларуса дойдзе доўга дрэмлючая думка, што і мы людзі. Зборнік "Пес'ні" працаваў на новы час. Багушэвічавы творы ў тую пару вельмі клаліся на разварушаную і ўзрушаную сялянскую душу, якая гэтак прагла праўды.

У 1904 годзе апрача зборніка "Пес'ні" выйшлі і "Велікодная пісанка" (1904), "Казкі" -- усяго дзевяць кніг. Сярод іх чатыры арыгінальныя, тры перакладныя і дзве фальклорныя, пяць кірыліцай і чатыры лацінкаю -- "Янка музыкант", "Ведзьма" (абедзве выйшлі ў Кракаве).

Кожная з гэтых кніжак, хай хоць і кволая, але з'ява для нашай культуры. У кожнай з іх свая пуцявіна.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"** Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## І ЗНОЎ ПАДПІСКА!

**Яна будзе доўжыцца да 25 лістапада! Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі, аднаўленне яе традыцый, праблемы адраджэння нацыянальнай спадчыны, сустрэньце Новы 1995 год з "Голасам Радзімы"!**

**Кошт падпіскі на I квартал усяго 720 рублёў, на паўгоддзе — 1 440 рублёў.**

## *ДЫРЭКТАР ЭТНАГРАФІЧНАГА КОМПЛЕКСУ*

**І ў наш цяжкі час не перавяліся энтузіясты. Адзін з іх -- Міхаіл Бернат з вёскі Русіна Баранавіцкага раёна. Выпускнік гістарычнага факультэта БДУ, ён некалькі дзесяцігоддзяў выкладаў філасофію ў навучальных установах рэспублікі. Але здарылася так, што захварэла яго састарэлая маці, і Міхаіл Іосіфавіч крута павярнуў свой лёс. Вырашыў пераехаць жыць у роднае Русіна і прысвяціць сябе даследаванню баранавіцкай зямлі, на якой вырас.**

**Некалькі гадоў прарабіў Міхаіл Іосіфавіч навуковым супрацоўнікам у Баранавіцкім райвыканкоме. А нядаўна яго прызначылі дырэктарам этнаграфічнага комплексу земляробства, які ствараецца ў яго роднай вёсцы. У комплекс увойдуць музей, які размесціцца ў старадаўнім доме даваеннай пабудовы, млын, кузня, ганчарная майстэрня.**

**Міхаілу Іосіфавічу ўжо ўдалося згуртаваць вакол сябе аднадумцаў, пачынаючы са старшыні райвыканкома, кіраўнікоў многіх гаспадарак і канчаючы звычайнымі сялянамі -- майстрамі на ўсе рукі. Таму справа ладзіцца.**

**Першая чарга комплексу павінна быць адкрыта сёлетняй восенню.**



**НА ЗДЫМКУ: Міхаіл БЕРНАТ (злева) з пенсіянерам, вялікім майстрам слясарных і сталярных спраў Вячаславам СУХАРЭБСКІМ на месцы будаўніцтва комплексу.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## УБАЧЫЛІ. ПРЫНЯЛІ. РАСКУПІЛІ.



# СЛОНІМСКІЯ ТАЛЕНТЫ

Нядаўна ў Польшчы была арганізавана выстава карцін слонімскага мастака Яўгена Гіля. Пра гэта здарэнне можна сказаць: збег акалічнасцей. А калі падумаць...

-- Яўген, што, на тваю думку, прыцягнула ўвагу замежжа да тваёй творчасці?

-- Пра гэта, вядома, лепш спытаць у арганізатараў выставы.

-- Згодны, але, на жаль, гэта немагчыма.

-- Атрымалася вельмі проста і нечакана для мяне. Летам мы з жонкай гасцявалі ў польскіх сваякоў у горадзе Гожув-Вялікапольскі. Некалькі сваіх работ я падараваў польскім сябрам. І так здарылася, што карціны ўбачылі супрацоўнікі гарадскога клуба "Кніга і прэса". Яны іх зацікавілі. Адбылася сустрэча. Мае палотны абмяркоўваў мастацкі савет клуба, пасля чаго прапанавалі правесці персанальную выставу. Я згадзіўся. Праз пэўны час адвёз свае карціны на суд польскім аматарам жывапісу.

-- Колькі работ і якога жанру ты прапанаваў на агляд?

-- Трыццаць восем. У асноўным гэта пейзаж і нацюрморт.

-- Як успрыняла выставу грамадскасць горада?

-- Адразу хачу выказаць сваю ўдзячнасць арганізатарам выставы. Мне бясплатна прадаставілі памяшканне, зрабілі рэкламу. На прэзентацыі была мясцовая прэса, якая надзвя шырока асвяціла гэтую падзею. Былі спробы зрабіць каталог выставы, але ў арганізатараў не хапіла сродкаў.

Прыемна, што наведвальнікам выставы мае работы спадабаліся, бо большасць выстаўленых карцін была раскуплена. Гэтым, як я зразумеў, былі здзіўлены і супрацоўнікі адміністрацыі клуба. Яго дырэктар Барбара Зігмунд заўважыла, што за час існавання клуба (а сёлета яму споўніцца 30 гадоў) у іх такой выставы яшчэ не было.

-- Што яна мела на ўвазе?

-- Напэўна, сам попыт на палотны. Яна сказала, што да гэтага ў іх выстаўляліся польскія, нямецкія і ўкраінскія мастакі, але людзі куплялі ў іх усяго дзве-тры карціны.

-- Чым заваражылі твае карціны палякаў?

-- Магчыма, тым, што мае работы рэалістычнага напрамку, больш лірычныя па выкананню. На Захадзе, я заўважыў, мастакі аддаюць перавагу авангардызму.

-- Хутка скончыцца тэрмін выставы і ты зноў наведаеш горад Гожув-Вялікапольскі?

-- Так. І атрымаў прапанову прадставіць карціны на новую выставу ў наступным годзе.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК.**

**АД АЎТАРА.** Цяпер Яўген Гіль працуе над новымі жывапіснымі творамі, якія будуць прадстаўлены на агляд палякам. Прыемна, што творчасць нашага мастака заўважылі за мяжой. Дарэчы, у Польшчы яму прапанавалі работу: выкладаць у мастацкім вучылішчы.

**НА ЗДЫМКУ: мастак Яўген ГІЛЬ.**

**Фота Мікалая СУПРУНА.**

## СЦЕЖКАМІ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

У кастрычніку ў вёсцы Германавічы Шаркаўшчынскага раёна традыцыйна адзначаюць дзень нараджэння свайго вядомага земляка -- мастака, этнографа, паэта Язэпа Драздовіча. З нагоды яго 106-й гадавіны сюды прыехалі з Мінска і Віцебска вучоныя, мастацтвазнаўцы, журналісты і ўсе тыя, для каго дарагая творчая спадчына гэтага чалавека. Прыехалі, каб зноў прайсці па яго родных мясцінах, па яго сцежках, паглядзець выстаўленыя ў мясцовым музеі мастацтва і этнаграфіі, які носіць імя Язэпа Драздовіча, карціны майстра.

Тут жа адбыўся абмен інфармацыяй аб новых даследаваннях, прысвечаных яму, а таксама яго саратнікам-землякам -- Янку Пачэпку, Міхасю Машару і іншым. Прысутныя сышліся на думцы, што яшчэ не да канца вывучаны некаторыя бакі творчасці выдатных людзей краю, у прыватнасці ў галіне творчай педагогікі.

І, зразумела, былі на свяце музыка і песні, з канцэртам выступіў фальклорны калектыў Каўшэлеўскага Дома культуры.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 44.
Падпісана да друку 31. 10.1994 г.